№ 28 (3973)

www.nv-online.info

10 красавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

## Самопоедание

Если кто-то что-то понял из комментариев Некляева, Возняка, Лебедько и иных, причастных к скандалу с уходом из оппозиции одного из самых известных игроков, то он может смело записываться в Клуб находчивых людей. О причинах произошедшего все говорят туманно и обтекаемо. Зато при этом все расшаркиваются в комплиментах Владимиру Прокоповичу: «Большая потеря для оппозиции!..»

Да, это большая потеря. Тем более что Некляев – не первый человек с биографией, опытом, именем, который пришел в оппозицию, но был просто выдавлен из нее. Леонов, Гончарик, Козулин, Фролов, Домаш, Парфенович... Наша оппозиция не дорожила никем. И особенно компромиссными фигурами – теми, которые могли стать мостиком между оппозицией и властью.

Почему так произошло?

На мой взгляд, потому, что и в структурах оппозиции, и в руководстве – так называемые люди «без биографии». Многие из них на самом деле умные, талантливые, порядочные, перспективные. И в нормальной политической системе они бы двигались по политической лестнице, росли, становились депутатами, чиновниками, министрами – становились бы системной оппозицией, сами являлись бы компромиссными фигурами.

Но наша система ненормальна. У нас единственная возможность реализации политических амбиций оппозиционера – побороть, починить, обыграть себе подобных. И чем меньше это «место под солнцем», тем более жесткая за него ведется борьба. Думаю, именно результатом этой борьбы стало заявление Владимира Некляева о выходе из всех оппозиционных структур, в том числе из компании, которая, собственно, персонально под его имя и была создана, – компании «Говори правду!».

Сразу скажу: это я так понимаю ситуацию и так сама себе ее объясняю. Если мой текст сподвигнет кого-то из участников процесса что-то опровергнуть, уточнить или просто объясниться, то будет только польза.

Итак...

Наша оппозиция ходила на выборы и с единым кандидатом, и без единого; ходила в период, когда поддержка Лукашенко в народе зашкаливала и когда белорусы в нем разочаровались. Попробовали всякие сценарии, и теперь практически все согласны, что сейчас, когда оппозиционные настроения в обществе сильны, когда есть недовольство этой властью, есть откровенная усталость от этой власти, на президентских выборах оппозиции нужен единый кандидат. Тем более что ни одна из существующих структур сама просто не в состоянии справиться с такой масштабной кампанией, как президентские выборы.

Два года обсуждали, как надо выбирать «единого». Два года!!!

Предложение «Говори правду!» и примкнувших к ней Партии БНФ, движения «За свободу», социал-демократов было таким. «Единого» выберет Конгресс демократических сил, делегатами КДС могут быть не только «штатные партийцы», но и активисты, имеющие определенное количество подписей граждан в свою поддержку.

По сути, это означало, что делегатами хотят сделать не оппозиционеров со стажем, которые давно ни в чем не участвуют, кроме семинаров и тренингов, а активистов с работающими штабами – например, кандидатов в депутаты разных уровней. И все вместе их маленькие штабы должны были стать одним большим предвыборным штабом для кандидата оппозиции.

Это предложение и стало камнем преткновения.

«Мы не сможем проверить подлинность подписей!» – заявили Объединенная гражданская партия и Партия левых «Справедливый мир» и заблокировали инициативу. Хотя вряд ли дело было в проверке подписей. Просто ОГП и «калякинцы» при такой процедуре выдвижения делегатов на Конгресс очевидно проигрывали: они-то кандидатов в депутаты не выдвигали, кампаний по сбору подписей среди людей не проводили... То есть их шансы получить большинство делегатов Конгресса предложенная процедура разрушала.

В итоге ОГП объявила, что ее кандидатом на президентских выборах будет Анатолий Лебедько, а если остальные оппозиционные силы выберут «единого», то возможны переговоры. Сергей Калякин с однопартийцами к таком решению присоединились. Оппозиция раскололась.

Впрочем, не могу сказать, что сильно бились за проведение Конгресса «Говори правду!» и движение «За свободу». У первых потенциальным кандидатом был Некляев, у вторых – Милинкевич, а значит, четко прорисовывалась перспектива столкновения интересов. Так все тихо-вяло и шло до конца прошлого года, пока Александр Милинкевич внезапно не выбыл из предвыборной гонки. Он, напомню, решил попробовать свои силы на посту ректора Европейского гуманитарного университета, отойти от политики.

Казалось бы, в такой ситуации Некляеву и карты в руки, и он не раз заявлял о своей готовности стать кандидатом в президенты. Но при условии, что это не будет позорная кампания, что на этот раз все пройдет по-взрослому, что на выборах будет единый кандидат от оппозиции. Только вот сценарий «единого» поломал Лебедько и твердо стоит на своем.

Нужно ли идти на выборы врастопырку?.. Может, в такой ситуации лучше поддержать Лебедько?.. Некляев начинает колебаться.

Он до последнего настаивал на проведении Конгресса и не исключал, что не согласится баллотироваться, если будет несколько кандидатов от оппозиции. В то время как его соратникам требовалась определенность. И они начали потихоньку подыскивать другого кандидата. Удачной оказалась «женская карта» – фондов, поддерживающих гендерные программы, много, да и в обществе есть запрос на «свежие лица»... В итоге было объявлено, что в «Говори правду!» произведена замена: вместо Владимира Некляева кандидатом в «единые» становится Татьяна Короткевич.

Партия БНФ под таким решением подписалась, движение «За свободу!» – нет. Но теперь поставьте себя на место Анатолия Лебедько и представьте его реакцию на новость, что на Конгрессе демократических сил (если он состоится) его потенциальными соперниками будут не Некляев и Милинкевич, а Татьяна Короткевич, которую не то что в стране, а в оппозиционной среде мало кто знает.

Естественно, что при таком раскладе Лебедько на Конгресс очень даже согласен. И переговоры о проведении КДС, фактически остановившиеся в конце прошлого года, начинаются с новой силой.

Вот только теперь уже этот Конгресс не нужен компании «Говори правду!».

И если бы не Некляев с его убежденностью, что президентские выборы – не время меряться амбициями, что оппозиции необходимы и проведение Конгресса, и единый кандидат, то никакого скандала не случилось бы. Но Некляев – «неопытный оппозиционер», он уперся. Он занял позицию: проведение Конгресса еще возможно.

И вот тут его сторонники (а на заседании присутствовал Сергей Возняк) «слили» лидера. Потому что Татьяна Короткевич, хотя и умница и красавица, но Анатолию Лебедько на Конгрессе проиграет...

В итоге Некляев ушел. И из оппозиционных структур, и из компании «Говори правду!». Пока ничего не комментирует и ничего не объясняет. Понятно, что не хочет выносить сор из избы. И все-таки мне кажется, что он просто устал участвовать в том самопоедании, которым белорусская оппозиция занимается на протяжении последних лет.

У Некляева есть имя, есть биография, в конце концов есть другое занятие. А у них – нет.

И для оппозиции это действительно большая потеря.

ПАЛІТКУХНЯ



## Някляеў сыходзіць

*Лідар грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!», кандыдат у прэзідэнты Беларусі на выбарах 2010 года Уладзімір Някляеў заявіў пра выхад з апазіцыйных структур.*

Пра выхад з апазіцыйнай кааліцыі палітык заявіў 8 красавіка на пасяджэнні «сямёркі», дзе безвынікова абмяркоўвалася пытанне аб скліканні Кангрэса дэмакратычных сіл і вылучэнні на ім адзінага кандыдата ў прэзідэнты.

*«Двухгадовыя перамовы беларускай апазіцыі па вылучэнні адзінага кандыдата і вызначэнні супольнай праграмы на прэзідэнцкія выбары 2015 года завяршыліся безвынікова. У звязку з гэтым заяўляю пра свой выхад з апазіцыйных структур, у тым ліку з грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!», актывістам якой я назаўсёды ўдзячны за працу і падтрымку. Незалежнасць і дэмакратычная будучыня Беларусі застаюцца для мяне найвялікшай каштоўнасцю. Дзеля гэтага я буду працаваць і надалей»,* – такую заяву зрабіў Уладзімір Някляеў з нагоды свайго сыходу.

Такім чынам "Гавары праўду!" засталася без лідара і ў бліжэйшы час будзе прызначана дата з'езда арганізацыі. З'езд, дарэчы, і планаваўся. Але з іншай нагоды. Справа ў тым, што 7 красавіка рэспубліканскі савет «Гавары праўду!» прыняў рашэнне вылучыць кандыдатам у прэзідэнты актывістку кампаніі Таццяну Караткевіч. Але рэспубліканскі савет – гэта не ўся арганізацыя, таму на з'ездзе планавалі абмяркоўваць менавіта выбарчыя праблемы. Пасля сыходу Някляева сітуацыя змянілася.

## *Уладзімір НЯКЛЯЕЎ:* "Хацеў, каб людзі задумаліся..."

*Уладзімір Пракопавіч на каментарыі да скандальнай падзеі, прама скажам, не шчодры. Свой крок па выхадзе з апазіцыйных структур ён патлумачыў "Народнай Волі".*

– Не хочацца асабліва нічога казаць, – *з нейкай стомленасцю ў голасе працадзіў суразмоўца.* – Няма ў мяне ніякага жадання зноў у гэта лезці...

**– І ўсё ж такі: як вы прыйшлі да такога рашэння?**

– Я два гады з усім гэтым стараўся неяк разабрацца, хацеў давесці, каб людзі задумаліся, прынялі ўзважанае рашэнне. Не выйшла. Вынікам гэтага і стала мая заява. Вось і ўсё, што я магу на сённяшні дзень сказаць.

**– Ёсць нейкі сум ад таго, што адыходзіце ад палітыкі?**

– Я нікуды не адыходжу... Як змагаўся за незалежную і дэмакратычную Беларусь, так і буду змагацца. Гэта мэта не сённяшняга і не заўтрашняга дня, а ўсяго жыцця. І я ніколі ад яе не адыду.

**– Зараз у вас з'явіцца больш вольнага часу...**

– Я б так не сказаў.

## Чаму не дамовіліся?

*Сяргей ВАЗНЯК, намеснік старшыні кампаніі "Гавары праўду!" (у інтэрв'ю Радыё Свабода):*

**– Як распавядаюць удзельнікі пасяджэння «сямёркі», Някляеў выказаўся за кангрэс, а «Гавары праўду!» выступіла супраць...**

– Ён не прапаноўваў на «сямёрцы» праводзіць кангрэс. Казаў, што правядзенне кангрэса яшчэ магчыма, хаця ўжо мала часу. Мы за кангрэс, але часу на яго правядзенне ўжо няма. Трэба было займацца гэтым на пачатку года. А фэйкавы кангрэс, на якім не будзе нармальна абраных дэлегатаў, – гэта будзе прафанацыя і ганьба.

**– Але было галасаванне на «сямёрцы»: пяць «за» і двое «супраць»...**

– Гэта так Анатоль Лябедзька расказвае, але гэта не адпавядае сапраўднасці. Лябедзька даў некарэктную інфармацыю пра кангрэс. Мы наогул прапанову Някляева не разглядалі. На «сямёрцы» разглядалася, магчыма правесці кангрэс ці не? Частка ўдзельнікаў сказала, што гэта яшчэ магчыма. Частка сказала, што з-за недахопу часу яго правесці ўжо немагчыма. І там быў іншы расклад – не «пяць на два». Мы не дамовіліся праводзіць кангрэс, бо не было неабходнай колькасці галасоў.

*Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:*

– Я агучу толькі факты. Падчас сустрэчы "сямёркі" Уладзімір Някляеў прапанаваў правесці кангрэс без вылучэння дэлегатаў, а паводле збору подпісаў. Калі ўзнікла такая прапанова, то, натуральна, яе трэба было абмеркаваць і выказаць свае адносіны. Былі прадстаўнікі ўсіх сямі палітычных арганізацый, кожная з сямі структур казала альбо "так", альбо "не".

Пяць арганізацый, прымаючы да ведама, што мала часу і няма фінансаў, сказалі "так". "Гавары праўду!" і Партыя БНФ, якіх прадстаўлялі Сяргей Вазняк і Алег Мяцеліца, сказалі "не". Згодна з рэгламентам, рашэнне прымаецца па прынцыпе "кансэнсус мінус адзін". Такім чынам, рашэнне не прынялі. Усё – кропка! Што тут можна сказаць "не так", калі факты такія?

**– Магчыма, гэта і выклікала незадавальненне Някляева?**

– Лепш у яго запытацца, але сітуацыя непрыемная. Нешта падобнае было і ў мяне ў 2006 годзе, калі палітсавет партыйных структур не хацеў прызнаваць рашэнне Кангрэса дэмакратычных сіл. І я напісаў заяву: альбо прымаецца мая пазіцыя, альбо вымушаны сыходзіць з арганізацыі. Палітсавет тады падтрымаў мяне. А калі б не падтрымаў, то я таксама сышоў бы. Калі арганізацыя не падтрымлівае цябе, то гэта ўжо канфлікт інтарэсаў. І адстаўка ў такой сітуацыі – адзін з варыянтаў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

МНЕНИЕ

## Ушел поэт. Невольник чести

Для меня лично такое решение Владимира Некляева не стало неожиданностью.

Человек, создавший имя собственным талантом, сильно отличался от своей (как он считал) команды и ее сегодняшних союзников по коалиции.

В силу жизненного опыта и ответственности, полагаю, значительно больше окружения он думал о своей роли в политическом процессе и о ситуации в стране, а не только о "хлебе насущном".

Мне жаль, что он не сумел стать лидером политической силы и повторил путь своих предшественников Владимира Гончарика, Семена Домаша, Александра Милинкевича и Александра Козулина.

Скоро все придет к тому, что, на посмешище народу, в президенты оппозиционеры будут выдвигать людей, пришедших в политику напрямую из детского сада, где они и прошли все свои жизненные университеты.

Похоже, Некляева переиграла компания "джентльменов удачи", затеявшая очередной "грандиозный" проект, который пытаются втюхать как зарубежным партнерам, так и белорусскому обществу и где Владимиру Прокоповичу отводилась роль подтанцовки.

Дальше открыто, без тормозов, которыми, полагаю, Некляев все же оставался, будут рулить люди, во всей красе показавшие себя в кампании 2010 года, а особенно после ее завершения.

Приехали!

**Виктор КОРНИЕНКО,**
**сопредседатель незарегистрированного ОО "За справедливые выборы",**
**член политсовета ОГП.**

## Свята яднання

*(З Пасхальнага паслання мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі)*



Сёння ўся наша Царква Праваслаўная напоўнена пасхальнай радасцю і лікаваннем. Свята Пасхі, паводле слова свяціцеля Епіфанія, епіскапа Кіпрскага, – «галава і вяршыня ўсіх свят», яно для ўсяго свету – «урачыстасць абнаўлення і спасення».

У светлазарны дзень Пасхі Хрыстовай Царква ў сваіх свяшчэнных песнапеннях называе яе вялікай, той, якая дзверы райскія нам адкрывае, нядзеляй святой, Светлым Хрыстовым Уваскрасеннем; заклікае зямлю і неба, свет бачны і нябачны святкаваць: «Бо паўстаў Хрыстос – радасць вечная» (трапар 1-й песні Пасхальнага канона).

Пасха – краевугольны камень хрысціянскага светапогляду. Пасха – знаменне ацалення чалавецтва і ачышчэння яго ад граху, гэта вяртанне да крыніцы любові і жыцця – Тварца і Госпада нашага. Уваскрасеннем Хрыстовым змятаюцца ўсе перашкоды са шляху нашага спасення, да нас вяртаецца магчымасць стаць узлюбленымі дзецьмі Айца нашага Нябеснага. Уваскрасеннем Хрыстовым грэх перастае панаваць над чалавекам, а смерць пазбаўляецца свайго смертаноснага джала (1 Кар. 15: 55).

Уваскрэслы Хрыстос Спасіцель стварыў Царкву Сваю і даў ёй асаблівую благадатную сілу Святога Духу, сілу, жыватворную для кожнага чалавека, які веруе ў Хрыста. Святая Царква садзейнічае праз Уваскрасенне Хрыстова стварэнню ў сэрцы кожнага чалавека Царства Божага, каб мы разам з апосталам Паўлам маглі ўсклікнуць: *«ужо не я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос»* (Гал. 2: 20).

Усе мы, дзеці Царквы Хрыстовай, атрымалі найвялікшы дар Божы – несці бліжнім і дальнім Добрую Вестку пра Уваскрасенне Хрыстова і пра здзейсненае спасенне свету ад граху і смерці.

Пасха – гэта свята яднання. «Праца Царквы, – кажа Свяцейшы Патрыярх Кірыл, – будзе паспяховай роўна ў той меры, у якой яна зможа знайсці агульную мову са сваім народам. Таму што праблемы, якія перад намі стаяць, паасобку не змогуць вырашыць ні духавенства, ні свецкая ўлада, ні тая ці іншая палітычная партыя, ні той ці іншы паспяховы бізнесмен. Іх мы адолеем толькі разам».

На жаль, не ўсе мы сёння маем такую ісцінную і цвёрдую веру, здольную перамяніць наша асабістае жыццё і жыццё нашых бліжніх. Перамена жыцця ў Хрысце – гэта перамена ўзаемаадносін з самім сабой і з навакольным светам, перамена, здольная прывесці нас да паўнаты быцця. І свята Пасхі дапамагае нам адчуць тую Божую задуму пра нас, якая выяўляецца і ў гісторыі, і ў жыцці кожнага чалавека.

Праасвяшчэнныя архіпастыры, узлюбленыя айцы, браты і сёстры, віншуючы ўсіх вас са святам свят – Светлым Хрыстовым Уваскрасеннем, малітоўна жадаю благадатнай дапамогі Божай у вашай адказнай грамадзянскай і царкоўнай працы на славу Святой Праваслаўнай Царквы і нашай зямной Бацькаўшчыны.

Няхай пасхальная ўрачыстасць заўсёды жыве ў душы кожнага з нас і жывіць яе, усяляючы ўпэўненасць і радасць аб Уваскрэслым Госпадзе нашым Ісусе Хрысце. Няхай гэтай бясконцай радасцю будзе насычана ўсё наша жыццё. Прымаючы ствараальную любоў Спасіцеля, будзем дзяліцца ёю з тымі, хто пакутуе і цярпіць нягоды, хто мае патрэбу ў спагадзе і простай чалавечай увазе, будзем дарыць усім людзям лікаванне ў Хрысце Уваскрэслым і радасць яднання з Ім.

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!
САПРАЎДЫ ЎВАСКРЭС ХРЫСТОС!

АВАЛЬНАЯ ЗАЛА

## З першай спробы

*Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прагаласавалі ў першым чытанні за законапраект «Аб барацьбе з карупцыяй». Яго прадстаўляў у парламенце генеральны пракурор Аляксандр Канюк. Ці стане менш у краіне чыноўнікаў-карупцыянераў?*

Як вядома, яшчэ летам 2014-га Аляксандр Лукашэнка даручыў ураду падрыхтаваць дапрацаваную версію законапраекта аб карупцыі. Ён быў вынесены на грамадскае абмеркаванне. Распрацоўшчыкі атрымалі больш за 300 прапаноў, у тым ліку ад простых грамадзян.

У дакуменце, які прадставіў парламентарыям Аляксандр Канюк, устаноўлена забарона на паўторны прыём на дзяржслужбу асоб, якія раней былі звольнены са службы пры абставінах, якія іх дыскрэдытуюць. Законапраект таксама ўдасканальвае парадак дэкларавання даходаў і маёмасці асобных катэгорый дзяржаўных службовых асоб з мэтай максімальна поўнага ўстанаўлення іх рэальнага маёмаснага становішча. *«Па гэтых палажэннях законапраекта былі прапановы «на грані»,* – расказаў генпракурор. – *Прапанавалася ледзь не зазіраць у кішэню чыноўніка. Напэўна, гэта не зусім правільна было б з пункту гледжання маралі і этыкі. Такія не зусім адэкватныя прапановы мы адразу адмялі. Ёсць іншыя механізмы, якія дазваляюць вырашаць задачы, пастаўленыя прэзідэнтам».*

Праект закона ўтрымлі-вае абмежаванні, якія ўстанаўліваюцца для дзяржаўных службовых і прыраўнаваных да іх асоб. Такія асобы, у прыватнасці, не маюць права: займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю асабіста ці праз іншых асоб, мець рахункі ў замежных банках за выключэннем выпадкаў выканання дзяржаўных функцый у замежных дзяржавах і іншых выпадкаў, устаноўленых заканадаўчымі актамі, прымаць маёмасць (падарункі) у сувязі з выкананнем службовых абавязкаў і г.д.

У законапраекце прапісана таксама ўвядзенне механізму накіравання ў даход дзяржавы незаконнага ўзбагачэння, атрыманага дзяржаўнай службовай асобай. Канюк таксама адзначыў, што закон не будзе мець адваротнай сілы. Гэта значыць, што ён не будзе распаўсюджвацца на злачынствы, здзейсненыя да моманту яго прыняцця.

НАДВОР'Е

## На Вялікдзень месцамі кароткачасовыя дажджы

*Сіноптыкі завяраюць, што бліжэйшымі днямі ў Беларусі будзе цёпла*

Ужо заўтра ўдзень чакаецца да 17 градусаў цяпла.

У суботу ападкаў не прагназуецца. Тэмпература паветра ўначы 0...+5 градусаў, днём – +15...+20. У нядзелю 12 красавіка істотных ападкаў не прагназуецца. Удзень праз Беларусь пройдзе атмасферны фронт з Заходняй Еўропы, таму месцамі чакаюцца кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах – узмацненне ветру парывамі да 15–18 м/с. Тэмпература паветра ўначы складзе ад 2 да 9 градусаў вышэй за нуль, удзень – +15...+20, па паўночным захадзе – 12–14 градусаў вышэй за нуль.

І ТАК БЫВАЕ

## Зніклі без вестак 14 гадоў таму

*І знайшліся жывыя*

Беларускія следчыя адшукалі жанчыну і яе дачку, якія зніклі без вестак 14 гадоў таму. Дзевяць гадоў іх абедзвюх лічылі забітымі.

Як паведамляюць у Следчым камітэце, у чэрвені 2006 года гродзенскім міліцыянерам паступіла інфармацыя пра знікненне жанчыны, якой на той час было 43 гады, і яе 14-гадовай дачкі. З нагоды знікнення была распачата крымінальная справа. Потым у следчых з'явілася інфармацыя, што жанчына з дачкой маглі стаць ахвярамі злачынства.

І толькі ў лютым 2015 года гродзенскія праваахоўнікі атрымалі звесткі, што і жанчына, і яе дачка жывыя. Высветлілася, што яшчэ ў 2001 годзе яны па сваёй волі выехалі на пастаяннае месца жыхарства ў Расію. Пры гэтым гродзенка не паведаміла сваякам і сябрам пра свой ад'езд і разарвала з імі адносіны. У Расіі маці з дачкой жылі без рэгістрацыі.

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Как не подорвать здоровье на даче

Скоро дачный сезон. Для многих белорусов это не только возможность отдохнуть на свежем воздухе, но и необходимость работать на садоводческом участке. Как выиграть битву за урожай и не навредить собственному здоровью?

**Чем опасна «поза дачника»?**

**Как бороться с высоким давлением?**

**Что делать, если повышен холестерин?**

**Правда ли, что низкое давление не менее опасно, чем высокое?**

На эти и другие вопросы ответят заведующая терапевтическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ» **Людмила Андреевна ГУЛЕВИЧ** и врач-терапевт высшей категории **Ирина Степановна ВИНОГРАДОВА.**



**Ирина Степановна ВИНОГРАДОВА**



**Людмила Андреевна ГУЛЕВИЧ**

Звоните **14 апреля с 15.30 до 17.00** по телефону **328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте nvonlineinfo@gmail.com с пометкой «Прямая линия».

